ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 2 (1536) | Пятніца, 6 студзеня 1961 года | Цана 4 кап.



Мастакі Я. Красоўскі і Ул. Стальмашонак у мінулым годзе пабывалі ў турысцкім падарожжы па гарадах прыдунайскіх краін — Румыніі, Балгарыі, Венгрыі, Югаславіі, Чэхаславакіі і Аўстрыі. Яны зрабілі многа эцюдаў, акварэльных малюнкаў, якія зараз экспануюцца на выстаўцы ў клубе Саюза пісьменнікаў БССР.

**На здымках:** рэпрадукцыі работ **Ул. Стальмашонка** «Будапешт. Раніца» і **Я. Красоўскага** «Вена».

*Насустрач Пленуму ЦК КПСС*

## Выстаўкі, лекцыі, даклады

У хатах-чытальнях, сельскіх клубах, дамах культуры і бібліятэках рэспублікі арганізаваны выстаўкі літаратуры, прысвечаныя Пленуму ЦК КПСС, які неўзабаве адбудзецца. На выстаўках — пастановы партыі і ўрада па пытаннях развіцця сельскай гаспадаркі, артыкулы і фотаздымкі, якія сведчаць аб уздыме калгаснай вытворчасці. Такія выстаўкі арганізаваны ў Тураўскай, Барысаўскай, Маладзечанскай раённых, Гомельскай, Віцебскай, Магілёўскай абласных бібліятэках.

Цікавую выстаўку падрыхтавалі работнікі мінскай гарадской бібліятэкі імя Я. Купалы. Работнікі абласной бібліятэкі імя Пушкіна распрацавалі метадычныя пісьмы па правядзенню літаратурных вечароў.

Раённыя бібліятэкі рэспублікі ўкамплектавалі бібліятэкі-перасоўкі палітычнай, сельскагаспадарчай і мастацкай літаратурай. Лектары абласных і раённых лекцыйных бюро, а таксама ўніверсітэтаў культуры чытаюць у калгасных клубах і дамах культуры лекцыі і даклады па пытаннях развіцця сельскай гаспадаркі рэспублікі.

## Канцэрты для калгаснікаў

Многія сельскія клубы Бешанковіцкага раёна стварылі агітбрыгады, якія з поспехам выступаюць перад калгаснікамі, рабочымі і служачымі. Агітбрыгада Астравенскага сельскага клуба нядаўна выступіла з канцэртамі ў вёсках Вяжышча, Плісы, Крупенькі.

Добра працуе Бачэйкаўскі сельскі клуб. Яго дырэктар Анатоль Каржанеўскі кіруе хорам. Удзельнікі мастацкай самадзейнасці часта выступаюць перад калгаснікамі.

Добры мастацкі калектыў — агітбрыгада Старскага сельскага клуба. Яна выступіла ў аддаленых вёсках сельгасарцелі імя Леніна.

**К. ХРУЦКІ.**

## ЗА НОВАЕ, КАМУНІСТЫЧНАЕ

«Усім гарадам, ад малога і да дарослага, у паход, таварышы, на разведку новага жыцця!» — пісала «Пінская праўда» 12 ліпеня 1960 г. Пінчане вырашылі ператварыць свой горад ва ўзорны па працы, культуры, грамадскаму парадку.

Газета заклікала ўсіх грамадзян Пінска «строга захоўваць савецкія законы і правілы сацыялістычнага ладу жыцця, развіваць і ўдасканальваць народныя дружыны, таварыскія суды і іншыя грамадскія арганізацыі, весці рашучую барацьбу супраць дармаедаў, гультаёў, рвачоў, спекулянтаў, кіруючыся вялікім прынцыпам сацыялізма: «Хто не працуе, той не есць». «Не будзе месца сярод нас злодзеям, хабарнікам і хуліганам...», «Акружым нянавісцю п'яніц, скандалістаў і паклёпнікаў...»

З таго часу «Пінская праўда» ў разнастайных па жанру і форме матэрыялах адлюстроўвае выхаваўчую работу, якая праводзіцца ў горадзе.

Цяпер у Пінску вучыцца кожны трэці. Дзейнічаюць народныя ўніверсітэты тэхнічнай творчасці, камуністычнага выхавання, універсітэт для бацькоў і ўніверсітэт здароўя. Упершыню ў рэспубліцы пры індустрыяльна-тэхнічным тэхнікуме створана агульна-тэхнічнае вячэрняе аддзяленне, мэта якога — падрыхтоўка і ўдасканаленне спецыялістаў сярэдняй кваліфікацыі.

У 1959 г. жыхары Пінска за добраўпарадкаванне роднага горада атрымалі першую прэмію і пераходны Чырвоны сцяг ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР.

З яшчэ большай энергіяй і любоўю ставяцца пінчане да добраўпарадкавання горада цяпер. Галоўная іх увага скіравана на грамадскія арганізацыі—вулічныя і дамовыя камітэты, саветы пры домаўпраўленнях, праўленні Дома культуры і клубаў, бібліятэчныя саветы, саветы чырвоных куткоў і на іншыя органы калектыўнага кіраўніцтва і супрацоўніцтва, у якіх занята звыш 500 чалавек.

Калектыўныя намаганні прыносяць добрыя вынікі. Вось прыклады. На швейнай фабрыцы калектыў перайшоў на самакантроль. Некалькі прадуктовых магазінаў працуюць без прадаўцоў, а ў прамтаварных — створаны аддзелы з адкрытым доступам пакупнікоў да тавараў. У бібліятэках горада адкрыт свабодны доступ чытачоў да кнігі. На многіх прадпрыемствах горада заработная плата рабочым, інжынерна-тэхнічным работнікам і служачым выдаецца без касіра.

Уступаючы ў трэці год сямігодкі, працоўныя Пінска з яшчэ большым энтузіязмам змагаюцца за выкананне сваіх высокіх абавязацельстваў.

Паход працягваецца.

**М. ЧАПРАСАЎ,**
**слухач Мінскай вышэйшай партыйнай школы.**

# СЭРЦА АДКРЫТА ЛЮДЗЯМ

Пра гэты выпадак Соф'я Антонаўна не любіць успамінаць. Затое дзяўчаты новаму чалавеку пра яго абавязкова раскажуць. А выпадак адбыўся вось які.

Быў цудоўны летні дзень. Ля кароўніка спынілася палутарка. З кабіны выйшла ўжо немаладая жанчына. Агледзеўшыся навокал, яна стрымана ўсміхнулася і пайшла да кароўніка.

Ніхто, вядома, не чакаў, што ўсё гэта так адбудзецца. Восем дзён назад вядомую ў раёне даярку дзяўчаты праводзілі ў санаторый «Нясвіж». «Няхай адпачне, паправіцца цётка Зося», — думалі яны. Але праз тры дні даяркі атрымалі ад яе пісьмо. У ім, нібы між іншым, гаварылася, што, маўляў, добра тут, дзяўчаты. Вазьміце ў старшыні машыну, прыедзьце ў нядзелю сюды, наведайце сваю старую. Маладыя сяброўкі раскусілі гэтую «дыпламатыю». Яны ведаюць цётку Зосю. Нават з пісьмом не пайшлі да старшыні калгаса Мікалая Адамавіча. А цяпер вось яна і сама.

— Хоць так, хоць сяк лайце, а інакш я не магла, — апраўдвалася Соф'я Антонаўна. — Ала і Люба ў інстытут на сесію паехалі. А я на курорце. Трох у брыгадзе адразу няма? Тут і не пачуеш, у якія дзверы бяда ўвойдзе.

Соф'я Антонаўна лёгенька махнула рукой, што нібы азначала: «Вы ўжо, любыя, зразумейце мяне...»

Дзяўчаты ўзрадаваліся. Акружылі Соф'ю Антонаўну, пяшчотна гладзяць па плячы, не зводзяць вачэй з яе твару. А Нёман, які коціць воды тут жа ля фермы, іскрыўся, шумеў, ззяў...

* * *

Хто не ведае ў раёне гэтую маленькую, поўную бязмежнай любві да людзей жанчыну — даярку, ардэнаносца, члена ўрада. Жыве яна ў вёсцы ў невялікім доміку. Але гасцей — даярак, брыгадзіраў, заатэхнікаў, старшынь калгасаў часцей за ўсё сустракае на ферме. Вось і цяпер прыехаў знаёмы ёй чалавек. Соф'я Антонаўна спытала: «Што, Васіль Пятровіч, паўшчувалі? За малако?» Той адвёў позірк. «Ды не злуйся, галубок. Значыць, вінаваты, там дарэмна дакараць не будуць».

Васіль Пятровіч уздыхнуў:

— Сёлета нібы і добра выйшлі — сілас ёсць, канцэнтраты, а толку мала. Умення няма ці што...

Соф'я Антонаўна адказала:

— Уменне... Яно з неба не падае, на ляту не зловіш. Яго па крупінках збіраць трэба. Была неяк я ў адным калгасе. Седзячы ў кабінеце старшыні, выпадкова заўважыла за шафаю скручаную ў рулоны паперу. Разгарнула і ахнула. Ды гэта ж плакаты аб вопыце даярак. Я і кажу старшыні: «Што ж гэта, прапаганда перадавога вопыту?» «А хто ж яго ведае, можа Верка туды засунула», — адказаў ён.

Госць усміхнуўся, але нечакана пачаў скардзіцца: даяркі, маўляў, у іх калгасе маладзенькія, адным словам, дзяўчынкі яшчэ.

Замест адказу Соф'я Антонаўна паклікала дзяўчыну, што праходзіла міма.

— Скажы, Зіначка, колькі ў нашай камуністычнай дзяўчат?

— Ды амаль усе.

— А цяпер адкажы, калі ласка, даўно вы працуеце на ферме?

— Нядаўна, гады два, бадай. Пасля школы.

— А скажы, уменне да вас адразу прыйшло?

— Што вы, цётка Зося! Спачатку тыцкаліся, як цяляты ўпацёмку, вы ж ведаеце. А потым ужо...

— Я ведаю... Ну, прабач нам...

Соф'я Антонаўна падміргнула госцю: гэтыя самыя дзяўчаты два гады назад па паўтары тысячы надойвалі. А сёлета? Вось Валя Насевіч, Зіна або Света Лыч па чатыры тысячы ўжо надаілі. Некаторыя крыху менш. Але абавязацельствы ўсе ў поўную меру выканалі. Брыгада ў раёне першае месца заняла. А некаторыя члены брыгады новы, шэсцьдзесят першы год сустрэлі яшчэ ў жніўні і верасні. А калгас наш? Хоць ён, як вы ведаеце, і аб'яднаны, і давялося яму далучаныя гаспадаркі на буксір браць, — таксама крок падвоіў. Малако ракою цяпер цячэ...

Яны выйшлі з кароўніка.

— Мара ў нас вялікая, — працягвала Бондар. — У новым годзе— усім чатырохтысячніцамі стаць. Гэта раз. Другое — электрадойку ўвесці. А што датычыць дапамогі іншым — калі ласка, справа за намі не стане. Гасцям заўсёды рады. І яшчэ адна запаветная мара — няхай у новым годзе ўвесь наш калгас стане камуністычным.

— Так, пра Зіну я гаварыла... Старанная. Мы яе ўсе любім — і маладыя і старыя. У нас усе адна адну выручаюць. А як жа! Усе за аднаго і адзін за ўсіх.

Потым дадала:

— Шчаслівая... у Крамлі была. Мікіту Сяргеевіча слухала. Яна нам шмат пра гэта расказвала.

Раптам Соф'я Антонаўна ва ўпор паглядзела на Васіля Пятровіча і спытала:

— А ў вас дзяўчаты хоць вучацца?

Той разгубіўся.

— Не, здаецца, ніхто...

— А ў нас, галубок, дзве даяркі па два курсы інстытута ўжо скончылі. Тры сяброўкі іх таксама хутка паступаць туды будуць. Астатнія пайшлі ў вячэрнія школы сельскай моладзі. Вось справы якія... Я ім увесь час казала: «Вучыцеся, дзяўчаты. Вам з цягам часу фермы, калгасы прымаць трэба будзе».

Госць пачаў развітвацца:

— Дык, значыць, можна, Соф'я Антонаўна? Я прышлю да вас сваіх дзяўчат. Вы ўжо ім пакажыце, што і як.

* * *

— Расказваць пра гэта цяжка,— усхвалявана гаворыць Зіна Аўсянік, звяртаючыся з трыбуны да даярак, якія прыехалі ў раённы цэнтр з усіх калгасаў. — Трэба ўсё гэта ўбачыць самім, трэба адчуць тое, што адчувалі мы, пасланцы Беларусі, там, у Крамлі! Ды і не толькі мы...

— З чаго ж пачаць? Не ведаю, сапраўды... Напэўна, спачатку — пра нараду. Шмат цікавага пачулі... Выступілі Валянціна Гаганава, Мікалай Мамай...

А потым гаварыў Мікіта Сяргеевіч. Не, вы не ўяўляеце сабе, як ён гаварыў! Ведаеце, я, вядома, чытала яго прамовы, мне падабаліся і раней у гэтых прамовах вастрыня, выразнасць думкі. Але калі слухаеш Мікіту Сяргеевіча, бачыш яго жэсты, выраз твару, улаўліваеш інтанацыю голасу — гэта зусім іншая справа. Хрушчоў гаварыў пра камунізм, пра яго будаўнікоў, пра нас... І, разумееце, слухаючы яго, мы ўбачылі сябе іначай, і ўжо не такімі, якія мы цяпер, а якімі станем у будучым. Потым Мікіта Сяргеевіч гаварыў пра мір і пра тых, каму гэты мір упоперак горла... Апладзіравалі яму так, што дрыжалі сцены залы.

Зіна весела ўсміхаецца, усмешка заіскрылася і на тварах тых, хто ўважліва слухаў яе расказ.

— Сядзела я ў Крамлі і думала: нас тут — дзве тысячы. Мы цяпер на віду ўсёй краіны. І ўжо нельга, проста немагчыма цяпер спыняцца— кожны дзень павінен быць крокам наперад!

Вечарамі нас запрашалі на канцэрты, літаральна засыпалі кветкамі, і нам здавалася: сама Масква вітае нас, узнагароджвае дарамі вясны.

Яна задумваецца на хвіліну, у яе вачах не патухаюць шчаслівыя агеньчыкі.

— А Масква — якая прыгожая! Былі на Ленінскіх гарах. Стаялі як зачараваныя. Успомніла я песні пра маскоўскія прасторы, плошчы, палацы і толькі тады зразумела, як правільна ў іх сказана пра Маскву!

Зіна лёгенька дакранаецца да медалю «За працоўную доблесць».

— Вось ён, мой медаль... Вядома, я разумею: тут не толькі мая праца, а праца ўсёй нашай брыгады. І яшчэ я разумею: гэта не толькі ўзнагарода за мінулае, гэта—аванс на будучае, аванс народнага давер'я.

І вяртаючыся дадому, Зіна думала: усё добрае, што здарылася з ёю за яе кароткае жыццё, яе праца, без якой яна не ўяўляе жыцця, яе мары, ад якіх радасна білася сэрца, — усё гэта звязана з фермай, з сяброўкамі.

Яна ад душы рада за сваіх дзяўчат. Свету Лыч і Ларысу Туміловіч прынялі ў кандыдаты партыі. Ала і Света пабывалі ў Маскве на выстаўцы. Мілыя, родныя дзяўчаты!

Потым раптам пайшлі іншыя думкі. Кнігі, газеты, кіно — усё патрэбна савецкаму чалавеку. Яго душа павінна быць багацейшай, больш змястоўнай, прыгажэйшай. Ад чаго ж яна такой стане? Нашы дзяўчаты ўдзельнічаюць у калгаснай самадзейнасці: весела спяваюць, па-заліхвацку танцуюць, умела іграюць. Здавалася б, добра. Але ці часта даяркі бываюць у клубе, на занятках гурткоў, у кіно? Рэдка. Чаму? Вельмі проста. Да 10—11 вечара яны заняты на ферме: кармленне, дойка, уборка. Выйшлі — і дадому: раніцаю ўставаць, калі вёска яшчэ спіць. Значыць, трэба мяняць распарадак працы клуба, нельга забываць работнікам культуры пра жывёлаводаў.

Машына збавіла ход. Зіна страпянулася.

— Прыехалі? Вялікае вам дзякуй. Ну, я пабягу...

Свежы, парывісты вецер ужо разагнаў свінцовыя воблакі. Сонечныя праменні заіскрыліся ў нёманскай халоднай вадзе. А там, ля фермы, ужо была ў зборы ўся брыгада. Яна чакала Зіну, чакала гасцей з суседняга калгаса. Так, сэрцы тых, хто першым уступіць у камунізм, шчодра адкрыты людзям.

**Л. СТРОНГ.**

Калгас «Нёман»
Уздзенскага раёна.

**На здымку:** звеннявая калгаса «Свіслач» Берастовіцкага раёна Алена Антонаўна **Маціеўская.** Яе звяно летась сабрала з кожнага з 14 гектараў пасеваў па 412 цэнтнераў цукровых буракоў. У трэцім годзе сямігодкі члены звяна абавязаліся вырасціць на кожным гектары не менш 420 цэнтнераў буракоў.

Фота **А. Перахода.**
Фотахроніка БЕЛТА.

## ЭКСПАЗІЦЫІ НАШЫХ ДЗЁН

Нядаўна работнікі музея Вялікай Айчыннай вайны атрымалі цікавую пасылку — два вялікія кавалкі солі з рознакаляровымі пражылкамі. Гэтую соль у падарунак музею прыслалі шахцёры Салігорскага калійнага камбіната. У фонд музея ад рабочых прамысловых прадпрыемстваў Мінска прыбылі мадэлі аўтамабіляў, станкоў, трактароў, матацыклаў. Усё гэта ўстаноўлена ў новых экспазіцыях, прысвечаных пасляваеннаму будаўніцтву рэспублікі.

Увагу наведвальнікаў музея прыцягваюць карты электрыфікацыі БССР і прамысловасці рэспублікі. На новых экспазіцыях музея можна ўбачыць узоры прадукцыі заводаў Беларускага Саўнаргаса — тэлевізары «Беларусь-5» Мінскага радыёзавода, швейную машыну аршанцаў, крышталёвыя вырабы шклозавода «Нёман», гадзіннікі, фотаапараты, электравымяральныя прыборы, тканіны са штучнага валакна і інш. Змешчаны скульптуры і фатаграфіі перадавікоў прамысловасці і сельскай гаспадаркі, камсамольцаў — ударнікаў камуністычнай працы.

**Э. РЫСАЕЎ.**

## Сустрэча з пісьменнікам

Іван Шамякін сістэматычна сустракаецца са сваімі чытачамі.

Днямі ў Барысаве рабочыя, служачыя, настаўнікі, хатнія гаспадыні, вучні, пенсіянеры абмяркоўвалі новую кнігу пісьменніка «Трывожнае шчасце».

— Калі чытаеш раман «Трывожнае шчасце», — гаворыць чытач Ліпніцкі, — усім сэрцам верыш у праўдзівасць падзей, у праўдзівасць учынкаў герояў твора.

Настаўніца Лісоўская спынілася на выхаваўчым значэнні твора. Піянерважатая першай сярэдняй школы Эвентава гаварыла пра паказ пісьменнікам падзей Вялікай Айчыннай вайны і партызанскага руху ў Беларусі.

Цёпла сустрэты чытачамі, І. Шамякін расказаў аб сваіх творчых планах, аб значэнні мастацкай літаратуры як магутнага фактара ў камуністычным выхаванні працоўных.

У фае клуба былі арганізаваны выстаўка і продаж кніг пісьменніка.

**А. БЕНЯНСОН.**

## Захаваць помнікі прыроды

16 верасня 1921 г. па ініцыятыве Уладзіміра Ільіча Леніна быў выдадзены спецыяльны дэкрэт «Аб ахове помнікаў прыроды». Як жывыя прыродныя лабараторыі-запаведнікі вылучаліся некранутыя куткі лясных масіваў. Браліся на ўлік асобныя экземпляры жывёл і раслін, вадаспады, азёры, месцазнаходжанні выкапняў чацвярцічнай фауны і г. д.

Багатая помнікамі прыроды і наша Беларусь. Буйнейшы з іх—Белавежская пушча. Яна мае сусветнае значэнне па каштоўнасці лесанасаджэнняў і з'яўляецца адзіным месцам на зямным шары, дзе захаваліся зубры.

У Беларусі ёсць выдатныя экземпляры дрэў: цар-дуб у Данілевіцкім лясніцтве на Гомельшчыне, «дуб Напалеона» паблізу Кобрына, старыя гіганцкія дубы ў ваколіцах Нясвіжа, Століна, Рубеля, таполя чорная ў Брэсце. 300-гадовы бук непадалёк ад Навагрудка. Дуб-волат вышынёй у 40 метраў расце ў Калінкавіцкім лягасе. Каб абхапіць яго ствол, тры чалавекі павінны ўзяцца за рукі. Узрост гэтага гіганта—прыкладна 250 год. Рэдкі экземпляр пірамідальнага дуба ёсць у Брэсце. У Пастаўскім раёне захаваліся стогадовыя вязы і 150-гадовая ёлка, у Шчучыне—шматгадовая алея вязаў. Выдатны ўчастак некранутага лесу (урочышча «Гарачы бор») ёсць у Катранскім лясніцтве на Гродзеншчыне. На Палессі выяўлены рэліктавыя расліны трапічнага перыяду: вадзяны арэх, альдраванда, азалія панційская, вадзяная папараць. Ёсць у Беларусі і такія помнікі прыроды, як лясное возера Свіцязь у Навагрудскім раёне, возера Дрывяты ля Браслава, усім вядомае возера Нарач.

Да вялікай і важнай справы аховы прыроды трэба прыцягваць моладзь—праз школы, ВНУ, краязнаўчыя музеі, маладзёжныя арганізацыі. Вялікае значэнне мае выданне навукова-папулярных кніг, прысвечаных ахове прыроды.

На жаль, ёсць яшчэ выпадкі безадказнага стаўлення да помнікаў прыроды. Так, напрыклад, жыхар Магілёва Г. Паўлаў жахліва знявечыў чатыры гіганцкія векавыя ліпы. Нягледзячы на законнае абурэнне і пратэсты грамадскасці, Магілёўскі гарвыканком вынес бязглуздае рашэнне «аб уборцы» гэтых дрэў. У радзе месц горада магіляўчане высякаюць і спілоўваюць каштоўныя дрэвы на паліва. З-за неахайнасці гаспадарнікаў у Магілёве знішчаны славутыя «Пелагееўскія гулянкі». На ўскраінах горада ўбіваюць у дрэвы вялікія цвікі, адпілоўваюць галінкі, падсякаюць карэнні, здзіраюць кару. Што, маўляў, зробіцца з дрэвамі, стаяць жа шмат год, не валяцца. Улічыце, таварышы магіляўчане, што дрэвы паміраюць стоячы.

Цудоўны экземпляр гіганцкай ёлкі знішчаны браканьерамі ва ўрочышчы Мурашова недалёка ад вёскі Пушча ў Пухавіцкім раёне. Самавольнымі высечкамі загублена мноства каштоўных дрэў і цэлых гаёў.

У нашай краіне выдаецца часопіс «Прырода», у радзе рэспублік створаны запаведнікі, арганізаваны камітэты па ахове прыроды. У РСФСР прыняты Закон аб ахове прыроды. Спецыяльныя курсы аховы прыроды чытаюцца ў Маскоўскім, Вільнюскім, Адэскім і Тартускім універсітэтах, у Вільнюскім педагагічным інстытуце. Аднак, як ні дзіўна, такога курса няма ў лесагаспадарчых і лесатэхнічных ВНУ. Не аддаецца ўвага пытанням аховы прыроды пры выкладанні батанікі, геаграфіі, заалогіі, слаба працуюць у гэтай галіне краязнаўчыя музеі.

Паказальны вопыт некаторых краін дэмакратычнага лагера. Так, у Польшчы курс аховы прыроды выкладаецца ў большасці ВНУ, а ў некаторых з іх нават створаны адпаведныя асобныя кафедры. Для вывучэння праблем аховы прыроды створаны спецыяльныя навукова-даследчыя ўстановы ў Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы, Польшчы, Чэхаславакіі.

У прапагандзе ідэй аховы прыроды высакародную ролю адыгрываюць савецкія пісьменнікі. Дастаткова назваць імёны Л. Ляонава, В. Закруткіна, К. Паустоўскага. Было б цудоўна, калі б энтузіясты, сэрцам адданыя прыродзе, аб'ядналіся ў Таварыства аховы прыроды. Вялікая сіла грамадскасці адыграла б значную ролю ў зберажэнні як асобных аб'ектаў прыроды, так і рэдкіх ландшафтаў.

**Г. МАРГАЙЛІК,**
**інжынер-лесавод.**

# ГЕРАІЧНАЕ ЖЫЦЦЁ

Хто хоць раз у жыцці размаўляў з Верай Харужай ці бачыў яе, той назаўсёды захаваў у памяці вобраз мужнай патрыёткі. Мне пашчасціла працаваць нейкі час разам з Верай Захараўнай у Целяханскім райкоме партыі, быць сведкам яе кіпучай дзейнасці.

Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі выпусціла зборнік «Слаўная дачка беларускага народа» *, у якім змешчаны пісьмы і артыкулы Веры Харужай, успаміны яе паплечнікаў па барацьбе і працы. Кожны радок гэтай кнігі — сведчанне гераічнага жыцця, жыцця-подзвігу.

Ужо з Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб прысваенні пасмяротнага звання Героя Савецкага Саюза Веры Захараўне Харужай можна ўбачыць этапы яе жыцця — актыўны ўдзел у рэвалюцыйнай дзейнасці і гераізм у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны.

Здаецца, крыху скупаватая біяграфічная даведка «Вера Харужая». Але гаворыць яна пра многае. Усё свядомае жыццё Веры — ад першых свядомых крокаў і да апошняга ўдара сэрца — можна назваць подзвігам. «У партыйным падполлі, поўным небяспекі і трывог, і ў адзіночнай камеры турмы, на сацыялістычных будоўлях і ў партызанскім атрадзе яе ніколі не пакідаў малады запал».

Дзіцячыя гады Веры Харужай прайшлі ў глухім у той час палескім горадзе Мазыры. Тут яна закончыла ў 1919 г. адзіную працоўную школу другой ступені. Потым Вера Харужая працуе настаўніцай у сельскай школе на Палессі. У 1920 г. яна ўступае ў камсамол і ідзе добраахвотна змагацца з бандамі Булак-Балаховіча. А калі краіна прыступіла да мірнай працы, Вера Харужая апынулася ў радах будаўнікоў сацыялізма, паказала свае выдатныя арганізатарскія здольнасці. 18-гадовую камсамолку прымаюць у рады Камуністычнай партыі.

Жаданне ўзбагаціць сваю памяць здабыткамі навукі прывяло Харужую ў Цэнтральную саўпартшколу ў Мінску. Пасля вучобы яна працуе ў апараце Цэнтральнага Камітэта камсамола рэспублікі. Па закліку партыі і Ул. І. Леніна аб узмацненні барацьбы з безнагляднасцю Вера накіроўваецца для правядзення паліткa-выхаваўчай работы ў Мінскі дом юнацтва і камсамольскую камуну. Яна была амаль равесніцай з тымі былымі дзяцьмі вуліцы, але хутка стала душой і агульнапрызнаным кіраўніком камсамольскай арганізацыі, ініцыятарам усіх грамадскіх спраў. Вера Харужая прымала ўдзел у пасяджэннях педагагічнага Савета. Не раз яна ўступала ў спрэчкі з настаўнікамі, якія трымаліся старых поглядаў у пытаннях выхавання дзяцей і юнацтва, адстойвала сумеснае выхаванне і навучанне юнакоў і дзяўчат, змагалася за ўцягненне выхаванцаў у грамадскую працу, за ўдзел іх у вырашэнні гаспадарча-бытавых пытанняў.

Па ініцыятыве Веры Харужай органы народнай асветы выдзелілі са складу Дома юнацтва камсамольскі актыў і стварылі камсамольскую камуну.

Былыя выхаванцы Дома юнацтва і камсамольскай камуны Н. Барысевіч, М. Рымша, А. Рымша ва ўспамінах адзначаюць: самым моцным у характары і паводзінах Веры «было тое, што яна ніколі не гаварыла бяздушных слоў. Да ўсяго яна была ўважлівая, але не патурала тым, у каго былі якія-небудзь зрывы, недахопы, а вельмі ўмела і тактоўна ўскрывала гэтыя недахопы. Яна ведала, хто чым жыве, хто чым дыша, і гэта давала ей ключ да кожнага з нас. Можа, у гэтым і быў сакрэт яе пераканаўчага ўплыву на нас. Гэтым тлумачыцца тое, што ўсе мы не толькі паважалі яе, але і любілі, называлі «нашай Верай»... Характэрна, што да яе слоў нельга было быць раўнадушным. Яны заўсёды даходзілі да сэрца і заўсёды былі дзейснымі».

Вельмі сур'ёзнае выпрабаванне выпала на долю Веры Харужай у 1924 г. Яна накіроўваецца на падпольную рэвалюцыйную работу ў Заходнюю Беларусь. Ва ўмовах суровых рэпрэсій і паліцэйскіх праследаванняў юная падпольшчыца прымае актыўны ўдзел у аб'яднанні разрозненых арганізацый і стварэнні камсамола Заходняй Беларусі. Неўзабаве яна выбіраецца ў склад ЦК камсамола Заходняй Беларусі і становіцца яго сакратаром. Адначасова Харужая была членам ЦК камсамола Польшчы і членам ЦК Кампартыі Заходняй Беларусі.

Аб дзейнасці Веры Харужай у гэты перыяд успамінаюць А. Маляўская і Н. Арэхва.

Падпольшчыца А. Маляўская так піша пра сваё першае знаёмства з Верай Харужай.

Пачалося пасяджэнне камітэта камсамола. Сакратар даў слова прадстаўніку Цэнтральнага Камітэта камсамола таварышу Веры. І пачуўся яе бадзёры, упэўнены голас.

«Цяжка ўявіць, які прыліў сіл выклікала гэта ў нас, — піша падпольшчыца. — Мы ў гэты момант, можна сказаць, ужо адчулі сябе пераможцамі...

Пасля пасяджэння сама сабою завязалася шчырая размова... Простая, баявая, Вера трымала сябе свабодна, натуральна і ўпэўнена, быццам яе акружае не маленькая жменька падпольшчыкаў і як быццам наша перамога—даўно вырашаная справа...»

Так было ўсюды і заўсёды, дзе з'яўлялася падпольшчыца Вера, дзе чуўся яе палымяны голас. Уменне згуртоўваць рады, збіраць сілы — самая выдатная рыса Веры Харужай як камсамольскага важака, агітатара. Гэтаму майстэрству вучыліся ў яе многія камсамольцы.

«Вера спалучала ў сабе якасці важака моладзі і радавога салдата рэвалюцыі», — піша А. Маляўская.

Многа цёплых слоў пра Веру Харужую напісаў ва ўспамінах «У буднях рэвалюцыйнага падполля» Н. Арэхва.

У пачатку жніўня 1925 г. у Беластоку і ва ўсёй акрузе пачаліся масавыя арышты не толькі членаў КПЗБ і камсамольцаў, але і членаў прафсаюзаў, леванастроеных сялян. Дэфензіва напала на след няўлоўнай камсамолкі Веры.

15 верасня 1925 г. яна была арыштавана на адной з кватэр у Беластоку. «Усё было супраць яе: і фальшывы пашпарт, выпісаны на выдуманае прозвішча Веранікі Карчэўскай, і немагчымасць даказаць грамадзянства, пастаяннае месца жыхарства і другія доказы, — піша Н. Арэхва. — На некалькі гадоў зачыніліся цяжкія дзверы турмы».

З пачуццём уласнай годнасці, стойка трымалася Вера Харужая разам з усімі падпольшчыкамі на судзе. У зборніку прыводзіцца вытрымка з пратакола Брэсцкага акруговага суда, дзе яна заявіла, што «камуністычнай ідэі адданая і верна ёй служыць. Не спалохае яе турэмнае знявольванне, як бы доўга яно ні пра-

(Заканчэнне на 2-й стар.).

* «Слаўная дачка беларускага народа». Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Мінск, 1960.

